Цана асобнаго № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыднeвік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год......12р. —
На поўгода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Незалежная Беларусь!



№ 18. 1918 г. 19-го мая 1918 г. № 18.

## Прарок.

Вы чаго тут векамі чакаеце, людзі,
Пад скалістаю, дзікай, высокай гарой?
Ад чакання, папэуна, нічога ні будзе,
У чаканні і дзень стане ночнай парой.

Вось дзесяткі вякоу палі у вечнасьці моро,
Шмат людзкіх пакаленняу пайшло у нябыт,—
А жаданні адны: тое самае горо,
Той жа самы стогн-плач, тая ноч і той быт.

На касьцях вашых прашчурау—зьмеі і совы,
У забыцце пайшоу за народам народ;
Былі замчышчы, месты—там шэпчуць дубровы;
Як калісь, так цяпер, усе глядзяць на усход.

«Можа прыдзе на клічы збавіцель магутны,
Што асьвеціць жыцце, што людзям дасьць прастор»,—
Гэтак думае-кажа увесь род ваш пакутны
Пад зіяннем планэт і нізлічаных зор.

О, дзе творчы ваш дух, што вам дау Маісея
Сярод велічы строгай між пільскіх раунін?
Дзе крыніца любові сьвятой Назарэя?
Дзе Сократ—сьветлы гэній з блакітных Афін?

Кожны меціу вам шлях сярод змрокау, бы сонцо,
Вам на векі жыцце ашчасьлівіць жадау;
Вы ні слухалі іх, выкпівалі без конца,
Бадай кожны на мукі ад вас пападау.

А пасьля завершэння ганебства над імі,
Цалавалі вы камянь і ног іх сьляды;
Ды крычалі упарта: «За веру стаім мы!»
Паганілі веру і крыж той сьвяты.

На мечах высекалі вы імя сьвятое,
Тым жа самым мечом брата брат забівау.
А ці помніце дзікае полымя тое
Там, дзе Гусавы попел віхор разсевау?

Аднаго й таго самаго Бога прасілі,
Каб ен ворага вашаго зьнішчыць памог;
За такую-ж малітву варожай вам сіле
Памагчы быу павінен Той Самы жа Бог.

Там дзе славіць хацелі вы прауды скрыжалі,
То паганілі толькі стараннем сваім.
Ваша смага ні ведае меры і шалу;
Вам адно тое самае: бес—сэрафім.

А цяпер зноу чакаеце цуду ад неба.
Але самі вы, людзі, вы самі на што?
Вы без сэрца, без жыцця... О, жыцця вам трэба,—
Ужо вам ні паможа с пракокау ніхто.

Я іду, нібы одгук, на вашы стагнанні,
Сатвароны я вамі. Я гнеуны, як бог.
Вам патрэбен пастыр, хто-б на золак на ранні
Грамадзе чалавечай трубіу-бы у рог.

Не, ні будзе вам болей вялікіх пракокау!—
Не, ні будзе вам волю каму прадаваць!
Ужо досыць чакаць, пазіраць мутным вокам,
Бо самым трэба доляй сваей кіраваць.

Вам пракокі даны былі толькі часова,
Каб усім паказаць, як вялік чалавек,
Як варожыць яго агнецьветнае слово,
Што душы дае многа нізьведаных лек.

Як бязмежна яго чарадзейная сіла,
Як ад сьветлых парывау яго гінець цьма,
Як яго ні пужае нібыццем магіла,
Бо вялікаму сьмерці ніколі німа.

Пакідайце трусьлівыя думы-надзеі,
Без апоры, а самі ідзіце упарод!
Хай зазьяюць пад сонцам адважныя дзеі!
Ні адзін—хай устане увесь людзкі род!

І тагды толькі кончацца вашыя мукі,
І тагды толькі к шчасьцю вы зробіце крок,
Як да гэтаго з боку ні будзе прынукі.
Эх, вы людзі! З вас кожны, як хоча, прарок...

**Ясакар.**



* * *

Глядзі, як ноч красой чаруе,
Маланкі твораць дзіво, казку,
А бура — чуеш?—як ваюе
І як прырода банкетуе,
Надзеушы чорны плашч і маску?
Ах, як прыгожа, як багата!
Чаму ты ні дрыжыш, ні плачаш?
Глянь! то ж на небі радасьць, сьвято.
Глянь! мігціць шоук сьвяточнай шаты...
Чаму ты ні дрыжыш, ні плачаш?
Так сіратліва я пытау
Сваю збалелую душу,
Бо бур, змагання я жадау.
Жадаю і малю, прашу:
Пярун бурлівего жыцця,
Выбій мяне з нябыцця
І загадай, каб меньш тужыу,
Каб вір працы закружыу!

* * *

Сярод грукату бур
Ашалелых страсьцей,
Калі злыбядзень, дур
Для мук горшых снасьцей
Ні здалеюць прыдбаць—
Воблік Бога відаць.
Тагды бачым Яго,
Бога усіх, усяго.
І ірдзіцца тагды
Вера у мудрасьць, любосьць;
Згінуць мукі, труды;
Рай у Бога нам есьць.

Чалавечэ, маніш!
Праклянеш ты усе,
Бо зямелька, жыцце,
То—Галгофа і крыж...

**Сучасны.**



## Хто ты гэткі?

Жывом мы у такіх часах, калі шмат гаворыцца а правох малых народау, а будаванні імі самымі іхняго уласнаго жыцця, і кожнае з ваюючых гасударств гаворэ,—як вы мусіць ужо ні раз у газэтах чыталі,—што яму для сябе нічога ні трэба, а яно ваюе толькі за «правы малых народау».

Ці гэта прауда—іншая справа, а вось прауда тое, што, як скончыцца вайна і зьедуцца прэдстаунікі ад усіх гасударств, каб пастанавіць, як і што мае быць,справа гэтых «малых» народау вылезе на верх.

Будуць там гаварыць і аб нас...

Нірач здаралося нам чуць, як людзі пытаюцца адзін другога:

— Як табе здаецца: ці мы астанемся пад немцам, ці вернемся пад рускаго?

А рэдка мы чулі, каб людзі казалі, што можна жыць і без немца, і без «рускаго», што можна самым кіраваць уласным жыццем,—вось так, як жывуць іншыя народы...

А мы-ж павінны ужо падгатовіцца да гэтаго новаго жыцця.

Першай важнай справай, каторую нам трэба зрабіць, гэта даведацца хто мы?

Калі спытаюцца нашаго брата:—«Якой ты веры?»—дык той, хто ходзіць маліцца у касьцел, адказывае: «я—польскі», а той, хто моліцца у цэркві, кажа: «я—рускі».

Ці-ж гэта так?

Вось і француз, і італьянец, і шмат яшчэ хто моліцца у такім жа самым, як

Беларускай Рады адбыўся 14-го мая. На павестцы дня стаяло: адстаўка сэкрэтарыята першаго складу, выбары новаго паводлуг габінэцкай сыстэмы і выбары прэзыдыума Рады. Адстаўка сэкрэтарыята прынята, зложэнне новаго—даручано п. Р. Скірмунту, прэдстаўніку цэнтру Рады.

Патаёмнай падачай галасоў прэзыдыум Рады выбраны у гэтакім складзі: старшыня Я. Лёсік (кандыдат соцыял. злучан.), таварышамі старшыні—А. Смоліч (канд. соцыял. злучан.], і А. Уласаў [кандыд. цэнтру]: пісары--Н. Крэчэўскі (кандыд. злучан. соцыял.) і С. Ленкоўскі (кандыд. цэнтру).

Заступаючы мейсцо старшыні, рады Я. Лёсік у сваей кароткай прамові, па між іншым, сказаў: «Прымаючы на сябе у гэты вінэўны і трагічны час для нашай Бацькаўшчыны абавязкі старшыні такой дзяржаўнай установы, як Рада Б. Н. рэспублікі, я мушу зазначыць, што нашаю мэтай і сьвятым нашым заданнем павінен быць дабрабыт нашаго народу,— той дабрабыт, каторы, само сабою разумеючы эканамічны росквіт, ні можа зьдзейсьніцца без культурна-нацыянальнаго развіцця і яго нізалежнасьці, а культурна-нацыянальная нізалежнасьць і яе поўнае разьвіцце, у сваю чаргу, ні можа зьдзейсьніцца без дзяржаўнай нізалежнасьці Беларусі. Такім парэдкам, культурна-нацыянальная і дзяржаўная нізалежнасьць Беларусі—вот наша мэта, наша сьвятое заданне і той глаўны грунт нашай чыннасьці, с каторого мы ніколі ні саступім.

Дазвольце ж, панове радныя, пажадаць мне, каб Беларуская Рада стала тою дзяржаўнай, рэяльнай сілай, якая належыцца ей, як прэдстаўніцы вялікаго і слаўнаго у мінуўшчыні, многапакутнаго і заніпалаго у сучаснасьці, дзесяцімільёнпаго беларускаго народу».

**Беларускія «большэвікі»** Жменька беларускіх рэботнікаў, пакрыўджаная адхіленнем ад іх большасьці беларускіх арганізацый, пашла «на службу» да вялікарускіх большэвікоў. Рада народных камісараў Вялікаросіі выдала ім каля 100 тысяч рб. грошай на выданне газэты «Дзянніца» і на арганізацыю нацыянальнаго камісарыята у Маскве. Уплыў гэтай большэвіцкай установы папыраецца на Смаленшчыну і Віцебшчыну, але жаднаго значэння ні мае.

Большую часьць сваe працы сябры беларускаго большэвіцкаго камісарыята —п.п. Жылуновіч, Чэрвяк, [каторы чамусь называе сябе—Чэрваков], Скарынка і іншыя,—аддаюць тыднёвай газэце «Дзянніца», дзе без перастанку пішуць усялякія брыдкія нагаворы на цэнтральныя беларускія арганізацыі у Менску і Вільні, а так само робяць даносы у сваей газэці на асобных дзеячоў і заклікаюць сваіх чытачоў «къ борьбѣ» з імі і т. пад.. І усе гэта за колькі тысяч рублеў і далека ад беларускаго народу і ад цэнтру беларускаго культурнаго і дзяржаўнаго жыцця.



# Бзікаваты.

Ну, і удауся ж наш Ігналя!
Пасачыу усіх па крошцэ.
Ніздарма яго празвалі
«Бзікаватым» у нашай весцы.
Дзед Яхім — вы пэуня чулі?—
На адно глухі быу вухо,
Зросшысь пальцы у бабулі,—
Тыя ж вады і у зуха!
Бацька, Сідар, меу горб лоукі,
Без броу вочы мела маці,
Нос крывы быу у залоукі,—
Ен усіх сабрау багацці.
І глухі, і зросшысь пальцы,
І гарбок з гарбуз пудовы,
І павекі, як-бы с шмальцу,
І нос скрыулен да паловы...
І вось гэты зух-калека.
Бзікаваты і нішчасны.
Снуець думкі чалавека
Аб быт лепшы, аб быт ясны.
Уздумау у шчасьці праканацца,
Мо' й пашэнціць — хто згадае?
Скрозь стау пільна прыслухацца,
Хто пасагу болей мае:
Ці Крыстына, ці Альжбета,
Ці Матрона Юзюкова?
Зьнюхаць толькі хлопцу гэта,
А там больш ні трэ' ні слова:
Час цяпер на хлопцау трудны,
Дык і ен у ацэнку пойдзе.
Хтось ачысьціць камень брудны
І брыльянт мест камня знойдзе.
Горб ні сказа і ні вада,—
Дурань з горбам ні бывае.
Гэтым мартвіцца ні нада,—
Так Ігналя раздумляе—
Нос крывы — ізноу ні дзіво,
Гэткі й пісар нават мае,
Для таго-ж — жывець шчасьліва,
Ні стыдзіцца й ні скрывае:
Мае жонку, дзетак трое,
Аж зайдросна — рад прызнацца.
Дык за што-ж і за якое
Мне без жонкі век бадзяцца?!
Ды абдумаушы усе гладка
І абнюхаушы усе тонка
Прысудзіу Ігналь: „Агатка
Мне павінна быць за жонку!"
А Агатка — каб вы зналі —
У весцы першая дзяучына,
І, каб жонкай быць Ігналю,
Дык ні было й успаміну.
Дзе там — гэткая ніудача;
Глянеш толькі — у холад кіне.
Праз варьяцтво — ні іначай,
Сваццю шле Ігналь к дзяучыне.
Выбрау сваццю з добрым брэхам,
Што ні мела прауды й паху.
Шмат у гэтым трэба спрыту,
У сваццi ж есьць яго даволі.
Пасуліу Ігналь мех жыта.
Дык чаго ей яшчэ болей?
Спрытам, кемкасьцю, развагай
Сваццi узброена натура...
Даканала чын з адвагай
І адказ Ігналю турэ.
Рад Ігналя, што удача,
Шаг адважны каранує.
Чуць ад радасьці ні скача,
На плячах гарба ні чуе.
На пачатак добра й гэта,
Што пазволіла Агата,
Каб бліжэй было да мэты,
Прывясьці у суботу свата.
Сват на воку — гора мала!—
Клопат іншы есьць на карку:
Напячэ Агата сала —
Паднясьці ен мусе чарку,
А тут з гэтым трудна справа
І прыдумай гдзе ратунку!?
Бо у сваты ж ні цікава
Завітаць, ні меушы трунку.
«Хоць бы Шлема жыу»,—Ігналя,
Нос спусьціушы, раздумляе:—
«Саматужкі б мы нагналі,
Сколькі й пан з двара ні мае.
Але й Шлема, як на тое,
У зямлю палез сырую...
І прыдумай што якое
На бяду цяпер такую!?»
Ну, дык што? У такія часы
Вымагаць ніхто ні у праве.
Будуць скваркі, ці каубасы,
То й капусты хтось паставе,—
Ці Агата, ці Параска,
(Маладухі яго матка).

---

А цяпер жа, калі ласка,
Дайце скончыць верш мне гладка
У сватох майму Ігналю
Шчасьце скончылось фатальна:
С хаты беднаго прагналі,
Ні даведаушысь дэтальна,
Сколькі мае коні, быдла,
Сколькі лесу, сколькі поля...
Выйшау с хаты, зьеушы мыла,
І ні рвауся у сваты болей.

1916 г. **Ф. Калінка.**



Рэдактар Я. Лёсік.

Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.